# УзГорак

**№ 9 – верасень 2003 г. - Газета Грамадскіх арганізацый і ініцыятыў.**


# Газэтнае аб’яднаньне

**Недзяржаўныя газэтыГорак “Дзядзька Тарас” і “Региональные ведомости» вырашылі аб’яднаць рэдакцыі. З наступнага кварталу яны выйдуць пад адзінайназвай зарэгістраваных “Региональных ведомостей».**




Пра гэта выдаўцы заявілі сёньня на старонках сваіх пэрыёдыкаў.

- Ад нашага рашэньня чытачы толькі выйграюць, - лічыць прыватны прадпрымальнік Дзямьян Франкоўскі, які ўжо год выдае разам з журналістам Эдуардам Брокаравым «Дзядзьку Тараса». - Пасьля аб’яднаньня застануцца толькі самыя цікавыя рубрыкі абодвух выданьняў пры гэтым кошт на газэту застанецца ранейшым.

Для выдаўцоў «Дзядзькі Тараса» такое аб’яднаньне, сапраўды, выгоднае, бо дасьць магчымасьць выйсьці на большую аудыторыю: газэта доўгі час ня можа атрымаць пасьведчаньня аб рэгістрацыі і захоўвае наклад у 299 асобнікаў.

Прыход новых сілаў у «Региональные ведомости» павялічыць падпіску, зробіць выданьне больш разнастайным і больш беларускамоўным. Дарэчы, апошняе было адной з умоваў зьліцьця рэдактарскіх калектываў. На гэтым настойлівалі «тарасы», газэта якіх аддавала перавагу роднай мове беларусаў.

***Ільля Заранок***

# Забаронена святкаванне «Дня беларускай вайсковай славы»



***Гарвыканкам не даў дазвол Гродзенскай гарадской Радзе ГА «БНФ Адраджэнне» на правядзенне святочных мерапрыемстваў з нагоды Дня беларускай вайсковай славы. Фармальнай падставай для адмовы стала неадпаведнасць пададзенай заявы артыкулу 6 Закона РБ «Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні».***

Паводле словаў юрыста гарвыканкама Валерыя Шаніцілы, у заяве на правядзенне мерапрыемства не былі ўказаны хатнія адрасы арганізатараў. Аднак старшыня гарадской Рады ГА «БНФ Адраджэнне» Аляксандр Міхальчык лічыць, што пададзеная заява поўнасцю адпавядала патрабаванням заканадаўства. Паколькі заяўнікам мерапрыемства выступала гарадская Рада ГА «БНФ Адраджэнне», у заяве мусіў быць пазначаным толькі юрыдычны адрас арганізацыі.

Паводле словаў Аляксандра Міхальчыка, за апошнія тры гады гарвыканкам па надуманых прычынах не дазволіў ніводнае мерапрыемства, заяўнікам якога з'яўляецца БНФ.

Дзень беларускай вайсковай славы адзначаецца актывістамі беларускага руху штогод 8 верасня. У гэты дзень у 1514 годзе войскі Вялікага Княства Літоўскага на чале з Канстанцінам Астрожскім пад Воршай разбілі ўтрая большае войска Маскоўскай дзяржавы. Аршанская бітва з'яўляецца адной з самых значных перамогаў у барацьбе за незалежнасць беларускай дзяржавы.

***Юлія Дарашкевіч, www. hrodna. by***

# Ліквідуюць «Фонд імя братоў Луцкевічаў»

***22 верасьня ў Вярхоўным судзе распачнецца разгляд справы аб ліквідацыі грамадзкага аб'яднаньня «Фонд братоў Луцкевічаў».***

Прэтэнзіі мін'юста да аб'яднаньня стандартныя: неадпаведнасьць юрыдычнага адраса фактычнаму знаходжаньню, парушэньне статуту аб'яднаньня й Дэкрэту прэзыдэнта ад 26 студзеня 1999 года N2 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні дзейнасьці палітычных партыяў, прафэсійных зьвязаў і іншых грамадзкіх аб'яднаньняў». Галоўнае парушэньне статуту — двойчы выкарыстаная фармулёўка «Фонд імя братоў Луцкевічаў» без вызначэньня «грамадзкае аб'яднаньне» перад ім.

«Усё лета мы шукалі юрыдычны адрас, напрыканцы жніўня ўнесьлі зьмены ў Статут у сувязі зь яго зьменай і паведамілі пра тое ў міністэрства, а ў адказ дазналіся, што пастаўленае пытаньне аб ліквідацыі нашай арганізацыі», — кажа Анатоль Гурыновіч, старшыня грамадзкага аб'яднаньня «Фонд братоў Луцкевічаў».

Толькі з пазову аб ліквідацыі сябры аб'яднаньня дазналіся, што 6 жніўня «Фонду імя братоў Луцкевічаў» вынесенае папярэджаньне за неадпаведнасьць юрыдычнага адрасу. А ўжо падчас адной з сустрэчаў з судзьдзёй даведаліся, што 5 жніўня на адрас аб'яднаньня нібыта быў дасланы ліст з просьбай перадаць усе выдадзеныя арганізацыяй матэрыялы. «Зь мін'юста нам не прыходзіла ані папярэджаньне, ані ліст. Пасьля таго, як гэта мы гэта сказалі ў міністэрстве, нас абвінавацілі ў яго дыскрэдытацыі. Я ня веру, што чамусьці менавіта два гэтыя лісты да нас не дайшлі. Усе астатнія ж даходзяць!», — кажа Анатоль Гурыновіч.

Па словах сябраў аб'яднаньня, ГА «Фонд імя братоў Луцкевічаў» скіраваў ліст міністру юстыцыі сп. Галаванаву з просьбай адклікаць пазову. Таксама сябры аб'яднаньня папрасілі міністра азнаёміць іх зь лістамі, што быццам накіроўваліся на іх адрас, і з дакумэнтамі, на падставе якіх аб'яднаньне ліквідуецца. Адказ міністра быў лякалічны: «Няхай будзе суд, ён усё вырашыць».

**...адказ міністра быў лякалічны: «Няхай будзе суд, ён усё вырашыць»...**

«Я ня веру ў тое, што Вярхоўны суд прыме рашэньне не на карысьць мінюсту. Хваля, якую зараз узьняло міністэрства супраць няўрадавых арганізацыяў, замоўленая і рыхтавалася не цяпер. Улада проста хоча ачысьціць арэну напярэдадні выбараў», — камэнтуе сытуацыю старшыня ГА «Фонд братоў Луцкевічаў» Анатоль Гурыновіч.

***Алёна Андрэева, www. belngo. info***

# Узнагародзілі «АСДЕМО»




***Упраўленьне па працы з насельніцтвам Адміністрацыі Чыгуначнага раёну Гомеля вырашыла заахвоціць Гомельскую гарадзкую Асацыяцыю дзяцей і моладзі «АСДЕМО» прызам за актыўнасьць ў ахове навакольнага асяродзьдзя.***

У нядзелю, 21 верасьня сябры асацыяцыі скіруюцца ў аднадзённую турыстычную выправу на цеплаходзе, які прадаставіць раённая адміністрацыя. Са словаў старшыні АСДЕМО Уладзімера Коўзелева, падарожжа пройдзе ракою Сож ад Гомля да ўрочышча Чонкі, любімага месца адпачынку гомельцаў.

Такі нечаканы прыз сябры асацыяцыі атрымалі за актыўную працу дзеля добраўпарадкаваньня раёну. Зараз жа АСДЕМО мае намер заняцца ўпарадкаваньнем зоны стыхійнага адпачынку гараджан. Падчас турвыправы моладзь будзе прыбіраць сьмецьце, правядзе аналіз рачной вады на наяўнасьць цяжкіх мэталаў і небясьпечных бактэрыяў, а пасьля правядзе футбольны матч.

***В. Астроўская, www. belngo. info***

# Татальная русіфікацыя на тэлеканале «БТ-1»



***Галоўнай прыкметай новага тэлевізійнага сэзону на БТ стала тое, што асноўная інфармацыйная праграма «Панарама» ўпершыню за ўвесь час свайго існаваньня выйшла ў будні дзень цалкам на расейскай мове. Прадстаўнікі дзяржаўнага тэлебачаньня кажуць, што мала хто зь вядучых валодае беларускай мовай.***
***Таварыства беларускай мовы плянуе зьвярнуцца ў Канстытуцыйны суд са скаргай і да міжнародных інфармацыйных тэлеканалаў з просьбай зрабіць беларускамоўную вэрсію праграмаў.***

Спачатку на расейскую мову перавялі навіны спорту, потым — дзённыя інфармацыйныя выпускі. Ужо некалькі гадоў нядзельныя аналітычныя праграмы на БТ выходзяць толькі па-расейску. Новая нядзельная праграма «Ў цэнтры ўвагі» ў дзень адкрыцьця новага тэлевізійнага сэзону выйшла таксама на расейскай мове. Але ўвечары ў панядзелак упершыню вядучы звычайнай «Панарамы» не гаварыў па-беларуску. Гэта значыць, што беларуская мова цалкам зьнікла з эфіру дзяржаўнага тэлебачаньня. Пасьля СТВ і АНТ тэлеканал БТ, ён жа Першы нацыянальны, стаўся трэцім і апошнім, які паведамляе беларускія навіны толькі па-расейску.

Я патэлефанаваў у Агенцтва тэлевізійных навінаў Першага нацыянальнага тэлеканалу, каб даведацца, чаму цалкам русіфікавалі «Панараму». Намесьніца дырэктара АТН Ала Рыжкевіч заявіла:

«У нас дзьве мовы. Выходзяць сюжэты і на расейскай, і на беларускай мове. Вядучыя будуць працаваць на мове праграмы. Так, учора «Панарама» ішла, і падводкі вядучага былі на расейскай мове».

Намесьнік старшыні Таварыства беларускай мовы Сяргей Кручкоў распавёў, што ягоная арганізацыя ўжо накіроўвала запыт старшыню Беларускай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Ягору Рыбакову з нагоды русіфікацыі вяшчаньня.

«Рыбакоў нам адказаў, што апытаньне правяла лябараторыя «Новак», і паводле вынікаў гэтага апытаньня, беларуская мова прыдатная толькі для вельмі вузкай катэгорыі праграмаў. Вось літаральна яны адказваюць: «Паводле зьвестак апытаньня, расейская мова больш падыходзіць для папулярных тэлепраграмаў, навінаў, кінапаказаў, забаўляльных перадачаў і іншых.

Вяшчаньне на беларускай мове, паводле меркаваньня ўдзельнікаў апытаньня, пажаданае для спэцыялізаваных праграмаў і для вузкай аўдыторыі — напрыклад, дзіцячыя перадачы». Пры гэтым ён адзначае вялікую, на ягоную думку, колькасьць перадачаў, якія яшчэ неяк трымаюцца на Беларускім тэлебачаньні й робяцца па-беларуску. Нават зьявілася новая праграма, якую мы раней ніколі не сустракалі, — «Прагноз надвор'я». Цяпер гэта вось калясальная праграма, на дзьве хвіліны. Яны лічаць гэта проста дасягненьнем».

Спадар Кручкоў мяркуе, што русіфікацыя дзяржаўнага тэлебачаньня ёсьць парушэньнем Канстытуцыі й правоў чалавека. На думку аднаго з кіраўнікоў ТБМ, «Першы нацыянальны канал вырашыў зрабіць беларускую мову альбо прадметам зьдзеку, альбо абавязковым дадаткам да расейскай мовы, каб у галовах гледачоў утваралася моўная каша». Сяргей Кручкоў адзначыў, што такой практыкі няма нідзе больш у сьвеце — выпускі навінаў фактычна ідуць на трасянцы, і пра роўнасьць дзьвюх дзяржаўных моваў казаць нельга.

***Юры Сьвірко, «Радыё Свабода»***



# Газпром начинает переговоры

***Председатель правления ОАО «Газпром» Алексей Миллер в телефонной беседе с гендиректором «Белтрансгаза» Петром Петухом предложил ему в ближайшее время провести переговоры о поставках природного газа белорусским потребителям в 2004 году по рыночным ценам. Как сообщили «Росбалту» в пресс-службе газового концерна, Миллер также предложил заблаговременно согласовать позиции сторон и проекты контрактов об объемах и условиях поставки газа.***

Как предполагается, часть объемов газа «Газпром» поставит в Беларусь в счет оплаты за транзит, а часть поставок будет осуществляться по рыночным ценам с оплатой денежными средствами. Объемы поставок газа «Газпромом» в Беларусь, законтрактованные на 2003 год, составляют 10,2 млрд. кубометров.

Кроме того, тема предстоящих переговоров о поставках «Газпромом» природного газа белорусским потребителям в 2004 году по рыночным ценам обсуждалась сегодня Алексеем Миллером с послом РФ в Республике Беларусь Александром Блохиным.

Напомним, что в апреле 2002 года правительства России и Республики Беларусь подписали межправительственные соглашения о создании равных условий в области ценовой политики и о расширении сотрудничества в газовой отрасли. В соответствии с первым соглашением Россия обязалась поставлять природный газ в Беларусь по оптовым ценам пятого ценового пояса РФ. В свою очередь Беларусь в соответствии со вторым соглашением должна была обеспечить условия для создания совместного с «Газпромом» газотранспортного предприятия на базе «Белтрансгаза». Как заявляют в «Газпроме», российская сторона выполнила обязательства по поставкам газа в Беларусь по внутренним ценам России. Вместе с тем, как считают в газовом концерне, белорусская сторона не пошла навстречу «Газпрому» в вопросе создания совместного предприятия.

***«Хартыя'97»***

# Жахлівае здарэнне

***У Горках стала вядомым жахлівае здарэнне - студэнтка Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі забіла ўласную бабулю.***

Імя дзяўчыны, як і прычыну ўчынку, хавае следства. Вядома толькі, што забойства адбылося ў Шклове, у родным доме пацярпелай. Навіна, сапраўды, прымусіла здрыгануцца адзінае горацкае ВНУ. У час заняткаў падзея перадаецца з вуснаў у вусны, распавядаюць з жахам пра гэта і выкладчыкі. І не дарма, многія з іх прымалі іспыты ці залікі ў сумна вядомай студэнткі: злачынца навучалася на чацвёртым курсе зааінжынернага факультэта. Самае прыкрае, што дзяўчына была выдатніцай.

***Ілля Заранок***






# Вось і звяжыся

Спроба Крычаўскага маладзёжнага грамадскага аб'-яднання «Верас» арганізаваць у горадзе фестываль рок-калектываў з Магілёўскай і Гомельскіх вобласцяў скончылася няўдачай. Прычынай сталася непрадказальнасць паводзінаў кіраўніцтва мясцовага камітэта Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі (БРСМ).

Ідэя правядзення фестываля выспела ў «верасоўцаў» яшчэ ў чэрвені. Былі праведзены перамовы з дзесяткамі гуртоў з розных гарадоў краіны і дасягнуты пэўныя дамоўленасці. У пошуках памяшкання для правядзення мерапрыемства і адмысловай гукаўзмацняльнай тэхнікі ініцыятары звярнуліся па дапамогу да Крычаўскага БРСМ. Там іх запэўнілі, што неабходнае будзе прадастаўлена.

За тры дні да правядзення рок-фестывалю Крычаўскі раённы камітэт БРСМ афіцыйна паведаміў аб адмове ў прадастаўленні гукаўзмацняльнай тэхнікі. Фестываль давялося адмяніць.

***Кацярына Яленская***

# Пагроза з "усходу"

## Беларускія банкі страцяць свае пазыціі на рынку праз увядзеньне расейскага рубля

***На думку экспэртаў, ужо цяпер відавочна, што ўвядзеньне расейскіх грошай у безнаяўнае абарачэньне пацягне скачок інфляцыі ды зьбядненьне беларускіх банкаў.***



Прадстаўнікі Нацбанку Беларусі таксама не выключаюць, што ўвядзеньне расейскага рубля можа адмоўна адбіцца на айчыннай банкаўскай сыстэме, але ж катастрафічных наступстваў у гэтым яны ня бачаць. Як адзначыў сёньня на прэсавай канфэрэнцыі ў Менску першы намесьнік старшыні Нацбанку Мікалай Лузгін, ва ўмовах адзінай эканамічнай прасторы з Расеяй канкурэнцыя на рынку банкаўскіх паслугаў узрасьце.

— Ускосным узьдзеяньнем будзе тое, што яшчэ болей узмоцніцца цікавасьць расейскіх банкаў да нашай банкаўскай сыстэмы. І будуць спробы набыць нашыя банкі, і канкураваць зь імі. Канечне, калі мы дазволім нашым суб'ектам гаспадараньня адкрываць рахункі ня толькі ў беларускіх, але і ў расейскіх банках, гэта створыць некаторыя праблемы для нашых банкаў. Канкурэнцыя ўзмоцніцца ў любым выпадку, але мы ў той жа час лічым, што драматызаваць сытуацыю тут ня варта.

Эканаміст Валер Дашкевіч тым часам не падзяляе гэты збольшага аптымістычны погляд на пэрспэктывы беларускай банкаўскай сыстэмы пасьля ўвядзеньня расейскага рубля. Нэгатыўныя наступствы прынясе нават не стварэньне адзінай эканамічнай прасторы, а толькі ўвядзеньне расейскіх грошай у безнаяўнае абарачэньне, лічыць экспэрт.

— Прадпрыемствы будуць у першую чаргу прытрымліваць расейскія грошы, бо яны больш стабільныя, ды будуць старацца разьлічыцца беларускімі грашыма, збыць іх з рук. Як вынік, хуткасьць абарачэньня беларускіх рублёў павялічыцца, а гэта раўнавартасна павелічэньню іхнай масы. Абавязкова будзе пэўны інфляцыйны скачок. Па-другое, беларускія прадпрыемствы змогуць атрымліваць крэдыты непасрэдна ад расейскіх банкаў, а там крэдыты значна таньнейшыя, чым у беларускіх. То безумоўна беларускія банкі атрымаюцца па-за гульнёй. У іх ня будзе крыніцаў падтрыманьня прыбыткаў.

Усе гэтыя чыньнікі прымусяць беларускія банкі шукаць сабе апірышча недзе па-за межамі краіны — і зноўткі ў найпершую чаргу ў Расеі. Таму спадар Дашкевіч лічыць, што працэс пагльнаньня беларускіх банкаў расейскімі значна паскорыцца. За апошнія паўтара году ў Беларусі адчынілася некалькі расейскіх банкаў, у тым ліку даччынае прадпрыемства «Росбанку» — «Белросбанк». Дарэчы, у Нацбанку не адмаўляюць таго, што на пэўным этапе інтэграцыі беларускія банкі сапраўды пачнуць прадаваць расейцам. Але ж ад гэтага ўласна беларуская банкаўская сыстэма пачне губляць свае пазыцыі, гаворыць Валер Дашкевіч.

На сёньняшні дзень у Беларусі працуе 29 банкаў і 477 філіяў банкаў. У банкаўскай сыстэме краіны працуюць 44 тысячы чалавек, ня ўлічваючы супрацоўнікаў Нацыянальнага банку. Тры банкі прызнаныя банкрутамі, яшчэ адзін банк знаходзіцца ў стадыі самаліквідацыі.

***Юлія Шарова, «Радыё Свабода»***

# Милошевичу предъявлено обвинение




***Прокуратура Сербии во вторник вечером предъявила обвинение экс-президенту Югославии Слободану Милошевичу в организации убийства экс-президента Сербии Ивана Стамболича и покушении на жизнь лидера оппозиции Вука Драшковича, сообщает AFP.***

Милошевич и еще четыре человека обвиняются «в убийстве Ивана Стамболича и покушении на жизнь Вука Драшковича», заявил прокурор Йован Прийич. По словам прокурора, Милошевич «отдал приказ о выполнении этих двух преступлений».

На Драшковича в июне 2000 года было совершено покушение на курорте Будва в Черногории. В августе того же года был похищен Стамболич. Его тело обнаружили в марте 2003 года захороненным в котловане на севере Сербии.

Напомним, что в настоящий момент Милошевич находится в тюрьме в Гааге. Его дело рассматривает Международный трибунал по бывшей Югославии.

***Лента. Ру***



# У сутарэннях чужых імёнаў

***Уласнае імя – самае дарагое і самае прыемнае слова для кожнага чалавека. Нездарма псіхолагі раяць у гутарках як мага часцей ужываць імёны суразмоўцаў. Ваш сябра/сяброўка будзе ўсцешвацца штораз, калі пачуе сваё імя з вашых вуснаў.***

Для многіх супольнасцей людзей шмат якія імёны гучаць (амаль) аднолькава, у гэтым вы пераканаецеся ніжэй. Аднак ёсць шмат імёнаў, якія не толькі ў розных мовах, але і сярод розных сацыяльных слаёў грамадства (старых знаёмых, моладзі, пры працоўных адносінах) вымаўляюцца вельмі адрозна. Што датычыцца беларускай мовы, дык яе перавага, да прыкладу, над рускай, прынамсі ў называнні людзей відавочная. Таму калі вы жадаеце сярод знаёмых ці яшчэ незнаёмых людзей праславіцца ў якасці цэнтру прыцягнення ўвагі, атуленага лёгкай загадкавасцю і «ліцвінскай шляхотнасцю», скарыстайце руска-беларускі шэраг імёнаў, прыведзены ў гэтым артыкуле.

Адам - Адам. Першае імя, першае мужчынскае імя. Добра, калі сярод вашых знаёмых ёсць чалавек з такім імем. Ведаеце, быць першым ці хаця б каля першага не гэтак ужо і блага.

Алесем, у скрайнім выпадку - Аляксандрам, можна называць хлопца, у каторага ў пашпарце напісана па-нянаску: Александр.

Анатолия і Антона можна лёгка «абзываць» - Анатоль, Антось, як і Аркадия - Аркадзь. Згадзіцеся, так карацей і свяжэй.

Не ведаю, ці сустракаўся ў вашым жыцці чалавек з імем Апанас, але ў маім ён дакладна быў. Я доўгі час не мог вывесці расійскую форму ад гэтага імя, аказалася проста - Афанасий, але Апанас усё ж лепей.

Барыс, Вадзім, Браніслаў і Валянцін розняцца хіба толькі вымаўленнем, а яно ў нашай мове паводле рашэння міжнароднай арганізацыі ЮНЕСКА самае меладычнае пасля італьянскага, таму - вымаўляйце.

Прыемней гучаць імёны Валер, Віталь, Васіль, Рыгор (для параўнання: Валерий, Виталий, Василий і зусім, на мой погляд, дрэнна, калі - Григорий). Тое самае для Уладзіміра, Уладзіслава і Ўсевалада. А вось далей трэба крышачку паднапружыцца. Так Георгія у нашай мове лёгка ператвараеца ў Юрку, Юрася; Ивана - у Янку, а Захария - у нашага нармальнага Захара.

А цяпер самыя распаўсюджаныя імёны. «Руского Петра» трэба ласкава называць Пятро, Павла - Павал, ці Паўлюк; а Сергея - Сяржук, хаця, калі дужа хочацца, можна і проста Сяргей (толькі абавязкова праз «я»).

Шмат якія імёны застаюцца амаль некранутымі ў беларускай мове: Максім, Ільля, Глеб, Давыд, Сымон - але пры гэтым яны атрымоўваюць класнае крывіцкае гучанне.

Самыя «смачныя» беларускія мужчынскія імёны - Лявон (Лев, калі па-расійску), Тодар (гэта недзе ня ў нас - Фёдор), Тамаш (а ня нейкі там Фома), Пілip (Филип) і Цімох (Тимофей). Менавіта гэтыя імёны падыдуць вашаму дзіцяці, калі вы вырашылі, безумоўна, яго «завесці». А яшчэ хлопчыка можна назваць Якубам, як дзядзьку-паэта Коласа; Кастусём у гонар нацыянальнага героя Беларусі Каліноўскага і знакамітага гетмана Астроскага; Міронам, ў знак пашаны да героя ўжо нашага часу; Міхеем, Харытонам, Мацеем альбо Маркам, бо зараз гэта незвычайнае, нязбітае і новае. А называць адзін аднаго па-беларуску - гэта не проста пустая ідэя, праз такія ўчынкі можна вярнуць хоць якую самабытнасць нашай культуры і падзівіць прыезджых расійцаў незвычайнымі «кликухами» еўрапейскіх тынейджэраў.

***Зацікавіць дзяўчыну сваёй асобай з першага разу не гэтак ужо і проста. Трэба шмат ламаць галаву ці мець прынамсі нейкія пэўныя вонкавыя дадзеныя (класічны профіль і антычны целасклад). Але ёсць простае выйсце, праверанае часам і на многіх персонах жаночага полу. Трэба, даведаўшыся імя новай знаёмай, хуценька перавярнуць яго ў прысутнасці дзяўчыны на беларускі капыл. Размовы хвілінаў на пятнаццаць вам будзе дакладна прадастаўлена! Не верыце? Успомніце савецкае кіно “Где находится нофелет?” Успомнілі? Дык вось, 15 хвілінаў, а мо і значна болей, дзяўчына будзе вас выпраўляць, распавядаць вам пра тое, што вы недакладна зразумелі, як яе завуць і гэтак далей. Вы ж у сваю чаргу спрытненька і без асаблівых цяжкасцей выцягнеце з яе нумар тэлефона і паабяцаеце распавесці пра асаблівасці белмовы ў вас дома сам-насам.***

Такім чынам, жаночыя імёны. Сашка, Шурка і Аляксандра на нармальнай беларускай мове будуць гучаць нашмат лепш - Алеся. Тут няма з чым спрачацца, калі вы не хочаце, каб вашая дзяўчына мела імя нібы ў каровы з шклоўскага калгасу, называйце яе Алесей. Анастасия - гэтае імя ўсё часцей і часцей пачынае сустракацца сярод жанок. Калі вам надарылася сустрэць сяброўку з гэткім імем, клічце яе Настай (гэта крута і пагрозліва), альбо Тасяй (пяшчотна і ласкава). Вольга, Ганна, Таццяна (Таццяна), Наталля (Наталя) - універсальныя імёны. Як ні круці, а ў расійцаў і ў нас, “братоў меншых”, гучаць яны амаль без адрозненняў. Беларускага каларыту можна знайсці хіба толькі для дзвюх дзяўчын, для Анэты (Анны) і для Натасі (Анастасія).

А цяпер пра файныя жаночыя імёны (толькі ня крыўдзіцца нікому, гэтыя імёны файныя толькі з суб’ектыўнага пункту гледжання самога аўтара). Да іх з лёгкасцю можна залічыць Вэроніку (а ня нейкую там Веронику), Аксюту (Ксению), Арыну (а не Ирину), Магду (Магдолину), Марту (а не “дзеравенскую” Марфу) і Каруту (хаця “Каролина” гучыць таксама нічога, толькі дужа доўга вымаўляць).

Зараз пра тое, на што трэба звярнуць увагу. Спадарства, ніколі не перакладайце імя Любовь на Каханьне (любовь, увогуле, бывае рознаю), тут трэба казаць проста і прыгожа - Любоў. Няма ніякіх Людзьмілаў, ёсць нармальная “чалавечаская” Людміла. Выкіньце з галавы і Екацярыну, бо па-нашаму такой жанчыны не існуе, ёсць толькі Кацярына, ці Кася (дарэчы, так завуць маю любімую спявачку, спадарыню Камоцкую). Карацей, не памыляйцеся, а то атрымаеце не нумар тэлефона, а ліхтар пад вока (дзяўчыны апошнім часам умеюць сябе абараніць). Ну, бачна, і ўсё, да новай сустрэчы ў сутарэньнях чужых імёнаў!

***Ільля Заранок***

Магілёўшчына

# Магілёў

В Могилёве открылся и принял 96 учащихся лицей Белорусско-российского университета. В лицее будет апробирована новая система обучения, которой предстоит внедрение в подобных заведениях республики.

***http://www. region. mogilev. by/***

# Крычаў

Магчымасці пашырэння супрацоўніцтва паміж моладзевымі НДА вобласці былі абмеркаваны ў Крычаве "за круглым сталом" прадстаўнікамі мясцовых моладзевых выданняў "VI элемент", "Маладзёжны кур'ер", "Крэзаторы" і жаночай газеткі "Крычаўлянка". У гаворцы ўдзельнічалі і госці — кіраўнік горацкай суполкі ЗБС і старшыня Рады магілёўскага моладзевага аб'яднання "Новая зямля".

"Круглы стол" у Крычаве - адзін з этапаў рэалізацыі супольнай праграмы рэгіянальных моладзевых арганізацый "Новая зямля", ЗБС, "Маладая Грамада" і Асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА. Разлічаная на паўгады, праграма пакліканая арганізаваць структуры моладзевага "трэцяга сектара" у мястэчках вобласці дзеля каардынацыі дзейнасці моладзевых НДА.

Наступная сустрэча прадстаўнікоў моладзевых НДА мае адбыцца ў Магілёве.

***Кацярына Яленская і Ілля Заранок***

# Бялынічы

З ініцыятывы Магілёўскага гарадскога моладзевага цэнтру Беларускага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" (фонд Грушавога) адбыўся злёт удзельнікаў экалагічных ініцыятыў Бабруйска, Мінска, Магілева і Бялынічаў.

Бялынічы на злёце прадстаўляла ініцыятыва Свяцілавіцкай школы на чале з настаўнікам Анатолем Дунчанкам. Удзельнік бялыніцкай ініцыятывы Лёша Вашацькоў быў адзначаны спецыяльным прызам журы, як самы малады і актыўны вясковы эколаг.

***Базыль Ліцьвіновіч***

# Шклоў

На территории района у трёх десятков бытовых потребителей электричество отключено за несвоевременную оплату. Документы на злостных неплательщиков переданы в судебные инстанции. В результате, им придётся не только погасить задолженность, но и оплатить госпошлину за судебное разбирательство и внести деньги за подключение электричества.

***«Могилёвские ведомости»***

# Асіповічы

Грамадскае аб'яднанне "Гісторыка" і Асіповіцкая ініцыятыва "Цэнтр экалагічнай эстэтыкі "СВІСЛАЧ" да Еўрапейскага Дня аховы гістарычных помнікаў прымеркавалі ўпарадкаванне тэрыторыі гаспадарчай пабудовы Незабытоўскіх і рэштак ў старажытнага замчышча XI стагоддзя.

Ахвотныя далучыцца запрашаюцца 21 верасня а 14-ай гадзіне ў в.Свіслач. Праезд рэйсавым аўтобусам ад ст.Асіповічы да прыпынка Свіслач-2, ці на цягніку Асіповічы-Магілёў да ст.Ялізава. Пажадана мець рыштунак: мяцёлку, граблі ці рыдлёўку, магчымы начлег.

Даведкі па тэлефоне: 8-0172-77-24-63 (з 14.00 да 19.00). У пятніцу, суботу і нядзелю: 29-8-46, з 14.00 да 19.00.

*** *** *** *** *** ***

Раённая арганізацыя ТБМ звярнулася да кіраўнікоў некаторых прадпрыемстваў з прапановай афармляць сваю прадукцыю на беларускай мове. Атрыманы адказы кіраўнікоў трох прадпрыемстваў.

Паводле дырэктара кансервавага завода "этикеточная продукция была заказана в 2002 г. и получена заводом, в настоящее время нет надобности заказывать этикеточную продукцию на 2003 г. Кроме того, завод находится в тяжёлом финансовом положении».

ВА дырэктара Асіповіцкага малочнага камбіната патлумачыў: «Молочная продукция поставляется не только на рынок Осиповичского района, но и в другие регионы республики и многие потребители не знают белорусского языка и не умеют на нём читать, поэтому было принято решение наносить подписи на русском языке».

Адзіны адказ на беларускай мове атрымала мясцовае ТБМ ад кіраўніка акцыянернага таварыства "ДАХ", хаця ён таксама лічыць, што за межы краіны прадукцыю трэба афармляць толькі на рускай мове.

Асіповіцкая суполка ТБМ збіраецца арганізаваць мерапрыемствы дзеля папулярызацыі роднай мовы.

***Таццяна Барэль***

*** *** *** *** *** ***

На базе ліквідаванай школы-інтэрната N5 дзеля падрыхтоўкі спецыялістаў будаўнічага профіля, сакратароўрэферэнтаў, бугхгалтараў, аператараў ЭВМ, цырульнікаў і гандляроў створаны дзяржаўны прафесійны ліцэй. Новая навучальная ўстанова мае дапамагчы значнай колькасці моладзі атрымаць спецыяльнасць у горадзе.

*** *** *** *** *** ***

Паводле газеты "Асіповіцкі край" утрыманне радыёнуклідаў у сельскагаспадарчых харчовых прадуктах мясцовай вытворчасці не перавышае дапушчальнага ўзроўню. Выключэнне — грыб балацянка.

Такім чынам, Асіповіцкі раён з'яўляецца адносна экалагічна чыстым.

# Бабруйск

Грамадскае аб'яднанне «Беларуская жаночая ліга» у межах семінара «Гендэрныя правы ў сістэме праў чалавека» арганізавала дэманстрацыю выставы «Народжаныя для шчасця і волі жанчыны Беларусі: учора, сёння, заўтра». Стэнды з фатаграфіямі і кароткими анатацыямі да іх прадстаўлялі некалькі тэматычных раздзелаў: «Жанчыны зніклых палітыкаў», «Беларуская жаночая арганізацыя «Адраджэнне Айчыны», «На вастрыні падзей (аматары пяра)», «Беларуская арганізацыя працоўных жанчын».

Выстава ўжо дэманстравалася ва ўсіх абласных цэнтрах. Старшыня «Беларускай жаночай лігі» Ніна Стужынская адзначыла, што выстава пакліканая спрыяць падвышэнню ролі жанчыны ў сучасным свеце.

*** *** *** *** *** ***

Прадстаўнікі дабрачыннага фонда «Літаратура — дзецям» наведалі і азнаёміліся з жыццём Бабруйскага спецыялізаванага дашкольнга дзіцячага дому N1 для дзяцей-сірот і дзяцей з асаблівасцямі псіха-фізічнага развіцця, якія засталіся без апекі бацькоў. Сярод наведвальнікаў быў дзіцячы паэт Багдан Лем, кніжкі з вершамі і загадкамі якога дзеці атрымалі ў падарунак.

*** *** *** *** *** ***

Бабруйская арганізацыя Чырвонага Крыжа атрымала гуманітарную дапамогу з італьянскага горада Крэм. Частка дасланых лядоўняў, пральных машын, электрапліт, а таксама адзення, пасцельнай бялізны была перададзена сацыяльнаму прытулку для дарослых.

*** *** *** *** *** ***

З ініцыятывы цэнтраў «ПОСТ» і «Сацыяльных інавацый» аб'яднаньне грамадзянскіх ініцыятыў «Свая справа» правяла семінар «Маладыя спецыялісты-педагогі і грамадства: крок насустрач». У семінары ўдзельнічалі маладыя настаўнікі Бабруйшчыны, Асіповіч, Лоева і Жлобінскага раёна. У працэсе працы настаўнікі спрабавалі знайсці шляхі вырашэння праблемных педагагічных сітуацый.

На семінары настаўнікі мелі магчымасць адкрыць для сябе паняцце «трэці сэктар» і пазнаёміцца з дзейнасцю NGOs Бабруйска. Неабходнасць тлумачэння сутнасці працы недзяржаўных арганізацый вынікала з запоўненых на пачатку мерапрыемства анкетаў. У якіх удзельнікі вызначылі найбольш актуальныя праблемы педагагічнай практыкі - прававую непісьменнасць і недастатковую метадычную падтрымку. Як выніка з анкетаў, па дапамогу ў вырашэньні гэтых праблем маладыя настаўнікі, найперш, звяртаюцца да больш дасведчаных калегаў, ці адміністрацыі. Профільныя грамадскія арганізацыі пры гэтым як памагатыя не згадваліся - ці то праз няведаньня пра такія, ці то праз аднабаковасць успрыняцця дзейнасці.

# “Новая газета Крычава”

***Магілёўскі абласны гаспадарчы суд пакінуў без разгляду пазоў Андрэя Кузьміна да Крычаўскага райвыканкаму, які на працягу пяці месяцаў адмаўляў індывідуальнаму прадпрымальніку ва ўзгадненні юрыдычнага адраса рэдакцыі інфармацыйна-рэкламнага выдання “Новая газета Крычава”.***

Прысутны на судзе прадстаўнік райвыканкаму не здолеў акрэсліць падставы, на якіх рашэнне па ўзгадненні юрыдычнага адраса не было прынята, аднак, з-за невыканання сп.Кузьміным дасудовага парадку, суддзя Іван Матулькоў пакінуў пазоў без разгляду.

Між тым, на другое кастрычніка ў Магілёўскім абласным гаспадарчым судзе прызначаны разгляд пазову да Крычаўскага райвыканкаму індывідуальнага прадпрымальніка Уладзіміра Кудраўцава, якому паўгады адмаўляюць ва ўзгадненні юрыдычнага адраса рэдакцыі газеты “Уласны каментар”.

***Кацярына Яленская***

# Пяць тон груза будуць размеркаваныя

***Дзякуючы дабрачыннаму амерыканскаму фонду Каунтэрпарт у Горкі паступіла гуманітарная дапамога.***

Пасярэднікам у яе атрыманні стаў Раённы цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Ягоная дырэктарка Наталля Карпушэнка паведаміла, што пяць тон груза будуць размеркаваныя не паміж насельніцтвам, а паміж бальніцай, дамамі ветэранаў і іншымі сацыяльнымі ўстановамі. Груз змяшчае мэблю, медыцынскія прыналежнасці, газавую і электрычную пліту і інш.

***Ілля Заранок, паводле газеты «Региональные ведомости»***

# Да Дня аховы гістарычных помнікаў

***Грамадзкае аб’яднаньне “Гісторыка” і Асіповіцкая ініцыятыва “Цэнтар экалягічнай эстэтыкі “СЬВІСЛАЧ” да Эўрапейскага Дня аховы гістарычных помнікаў прымеркавалі ўпарадкаваньне тэрыторыі гаспадарчай пабудовы паноў Незабытоўскіх і рэшткаў старажытнага замчышча ХІ стагодзьдзя.***

Акцыя адбылася 21 верасьня і сабрала 19 валянтэраў з Асіповічаў, вёскі Сьвіслачы і Менску. За адзін дзень маладзёны ня толькі пасьпелі прыбраць сьмецьце каля помніка архітэктуры, але й усталявалі памятную шыльду, якая заклікае мясцовых жыхароў зьберагаць культурную спадчыну свайго краю.

- Нягледзячы на тое, што гэтая мясьціна афіцыйна ахоўваецца дзяржавай, - распавядае каардынатар акцыі Вадзім Быліна, студэнт гістарычнага факультэту - бруду там па калена: пляшкі, рэшткі вогнішча. А побач няма нават сьметніцы!

Па словах Вадзіма не далёка ад помніка пасьвяць коней. Да таго ж, замчышча знаходзіцца на беразе Сьвіслачы ў тым месцы, дзе яна ўпадае ў Беразіно, таму эстэтычныя вартасьці месца прыцягваюць плойму турыстаў, якія пакідаюць пасьля сябе безьліч прыкметаў “актыўнага адпачынку”.

- Тут шмат што залежыць ад грамадзянаў, бо ва ўлады можа проста не хапаць фізычна магчымасьцяў падтрымліваць помнік у належным стане, - перакананы Вадзім Быліна.

Дарэчы, калі ў мясцовым сельсавеце даведаліся пра намеры моладзі прыбрацца на замчышчы, дык вельмі



ўзрадваліся і паабяцаліся дапамагчы. Аднак не дачакаўшыся дапамогі, за дзень маладзёны сваімі сіламі сабралі сьмецьце і, адвесшы яго на тачках, закапалі ў далечыні ад архітэктурных помнікаў.

Падобныя акцыі на працягу месяца будуць адбывацца па ўсёй Беларусі. Гэтак вырашыла МГА “Гісторыка”, кіраўніцтва якога лічыць няправільным, што ў нашай краіне няма пэўнай даты для Дня аховы гістарычных помнікаў, таму падзеі ў Беларусі ў адрозьненьні ад Эўропы будуць праходзіць 30 дзён. Падобныя мерапрыемствы не абмяжуюцца гэтым годам і будуць працягнутыя налета.

***Ільля Заранок***

# Вучняў стала меньш

Першага верасня за школьныя парты ў Горках і раёне селі 6162 вучня, што на 309 меньш, чым было летась. На гэтую ж дату колькасць дзяцей у дашкольных установах склала 1217.

***«Дзядзька Тарас»***

# Аднаўленне традыцый

Рэктарат Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі падтрымаў прапанову краязнаўцы, дырэктара краязнаўчага музея і выкладчыка БДСХА Уладзіміра Ліўшыца аб выданні акадэмічнага квартальніка «Вестник БГСХА». Часопіс мае працягнуць традыцыі навуковага выдання, што выходзіла ў другой палове 19 стагоддзя пад назвай «Записки Горы-Горецкого земледельческого института» і змяшчала працы студэнтаў ды выкладчыкаў Горацкага ВНУ. «Запіскі» выдаваліся цягам 5 год і карысталіся папулярнасцю сярод жыхароў акадэмічнага гарадка.

***Ілля Заранок***


УзГорак

**Газета грамацкіх арганізацый і ініцыятыў г. Горкі**

**Рэдактар** - ***Эдуард Брокараў.***
**Шэф-рэдактар** - ***Дзям’ян Франкоўскі.***
**E-mail**: dnescer@tut.by
Выпуск-9, ад 25.08.2003 г. 8-палос, А-4-га фармату. Наклад - 299 асобнікаў.
**Адрас рэдакцыі:** ***Магілёўская вобл., г.Горкі, зав. 2-гі Магілёўскі, д.1.***
Надрукавана на тэхніцы горацкага раённага аддзялення РГА ***«Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў»***.